# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 25 (277) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 18 ЧЭРВЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

# НА ГРАНІЦЫ



З гэтага бункера чатыры дні савецкія пагранічнікі ўстрымлівалі атакі фашысцкіх захопнікаў. Нарэшце, немцы падышлі ззаду і ўзарвалі бункер мінамі. Загінулі там смерцю герояў лейтэнант Яськоў, лейтэнант Сазонаў і іншыя пагранічнікі.

Ціхая чэрвеньская ноч 1941 года ахутала белым туманам надбужанскую вёску Слохы Аннапольскія.

Нічога не парушыла сну жыхароў гэтай прыгранічнай вёскі. Хіба толькі рачная крачка, напалоханая нечым з прасоння, прарэзліва ўскрыкнула ў бужанскім лазняку. Але і не маглі пачуць толькі вартавыя пагранічнікі, якія размясціліся на лініі жалезабетонных бункраў, паблізу вёскі.

Набліжалася 3 гадзіна раніцы.

— Ну, мабыць і гэта ноч закончыцца спакойна, — думаў пагранічнік старшыня Гараеў. Ён пачаў скручваць папяросу. Раптам на фашысцкім баку ракі загрукацелі гарматы. На лінію бункраў пасыпаўся град снарадаў. Старшыня Гараеў, адкінуўшы папяросу, усхапіўся за рукаяткі кулямёта. Побач яго да бранебойнай герматы прыліп камандзір бункра.

Устрывожаныя жыхары вёскі павыбягалі з хат. За вёскай ад узрываў снарадаў рабілася пекла.

Першыя гітлераўцы паказаліся на шашы, што прабягае ад Драгічына, у поўдзень. Іх прывіталі кулямётныя чаргі з бункраў. Пакінуўшы некалькі фашыстаў, падкошаных кулямі пагранічнікаў, немцы падаліся назад.

Але і пагранічнікі не былі ў найлепшай сітуацыі. Сувязь са штабам заставы, які змяшчаўся ў вёсцы Турна Малая, была парвана. З гарнізонам у Брэсцкай Крэпасці таксама не было сувязі. Камандзіры бункраў вымушаны былі самі рашаць, як далей весці абарону супраць фашысцкіх захопнікаў. Яны ведалі

(Працяг на стар. 2)



Вера Байко. Перадавая спартсменка ЛьЗС у Гайнаўскім павеце, старшыня Рады сябровак пры Павятовай радзе ЛьЗС у Гайнаўцы.

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## Неабыякавасць да спорту

Дзеля распаўсюджвання спорту сярод вясковага насельніцтва пасля вайны выявілася ў нас ініцыятыва арганізавання вясковых спартыўных каманд у рамках гурткоў ЛьЗС. Даўжэйшы час нялёгка было прывіць у вясковай моладзі любоў да спорту. Добрай інтэнцыі не садзейнічала ў многім становішча бацькоў, якія лічылі спорт чымсьці непатрэбным, лішнім, забываючы, што спорт — гэта не толькі гульні, а перш за ўсё — здароўе. Сітуацыя змянілася з цягам часу і надалей мяняецца на лепшае. Вясковыя спартыўныя каманды развіваюцца, арганізуюцца новыя, маюць свае дасягненні, знаходзяць дапамогу і падтрымку... Але аддайма голас фактам і прыкладам.

Кіраўніка бюро Павятовай рады аб'яднання ЛьЗС у Гайнаўцы, сябру Віталія Новіка, застаем за працай. Разам са старшым інструктарам гэтай рады Уладзімірам Савіцкім абмяркоўваюць арганізацыйныя справы: як дапамагчы гурткам ЛьЗС.

**— Спорт на Гайнаўшчыне даўней не меў прыхільнікаў сярод вясковай моладзі. Як зараз вы ацэньваеце гэтую справу?**

(Працяг на стар. 5)



Від на лінію бункераў каля Слох Аннапольскіх. У гэтым месцы чатыры дні героі - пагранічнікі ўстрымлівалі навалу гітлераўскіх захопнікаў. Тут, на варце дзяржаўнай граніцы яны панеслі смерць.

УВАГА ЧЫТАЧЫ!

НЕЎЗАБАВЕ—

БАЦЬКА МІНАЙ

УЖО У ЛІПЕНІ ПАЧНЕМ ДРУКАВАЦЬ

дакументальную аповесць УСЕВАЛАДА САБЛІНА — БАЦЬКА МІНАЙ. Гэта хвалюючая, яркая гісторыя барацьбы з гітлераўцамі Першай беларускай партызанскаі брыгады, якой камандаваў славуты герой Савецкага Саюза, удзельнік дзвюх вызваленчых войнаў, МІНАЙ ПІЛІПАВІЧ ШМЫРАЎ.

МЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО НОВАЯ АПОВЕСЦЬ СПАДАБАЕЦЦА НАШЫМ ЧЫТАЧАМ

ЦІ ПАДПІСАЎСЯ ТЫ ЎЖО НА «НІВУ» НА ЛЕТНІЯ МЕСЯЦЫ?

# Літаратурная старонка

**Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'яднання** № 33


## Алесь Барскі

### КУБА

Бывае, што сусед не друг, а вораг,
І сее ён ля вокан зерні згубы,
І пад парог падкіне звітак гора,
Як янкі падкідаюць Кубе.

Зайздросна стала «волі» абаронцам,
Калі кубінец першы раз паверыў,
Што Фідэль даў народу сонца
І шчасця поўнае самбрэра.*

Звязаць суседцы прагнуць рукі,
Падняць зноў хочуць Кубу на рас[illegible],
Ахутаць край ваеннай мукай,
Абсеяць поле горычным праклящцем.

Ды час не той і не такая Куба,
Каб радасць з рук хто вырваць здолеў;
Хто выпіў раз свабоды кубак,
Не схоча піць каўшом няволі.

Хвалю народ малы, што стаў вялікім,
І слаўлю чын герояў барадатых;
Гукаю Фідэлю я шчырым крыкам,
Што прагну стаць яго салдатам.

* Самбрэра — вялікі капялюш, які ў Паўднёвай Амерыцы носяць сяляне.



## Алесь Свісёк

**Памяці партызанкі.**

На грыве хмаркі сівай
за акном,
зацвіла зорка.
Сыпле серабром
ў мае акно і моргае, гарыць.
Звычайна,
як штодзённа ад вякоў...
А ў мяне ў грудзях
зайграла кроў:
Дзіўным прывідам
там, угары,
мне
твая ўсмешка мілая заззяла,
роднай песняй ў сэрцы заспявала,
усмешка,
аб якой я сніў і марыў...
Момант.
Згінуў чар...
Цябе ж ужо няма!
І чакаць на тваю ўсмешку
ўжо дарма...
Толькі зорка зацвіла на хмары.
Моргае,
ўсміхаецца разумна.
А мне сумна.
Так вельмі мне сумна!

## Віктар Швед

### ПЕРШЫ СНЕГ

Быў гэта, памятаю, першы пухкі снег
І першае з табой, каханая, спатканне.
Здавалася, што час спыніў для нас свой бег,
Хоць быў ён позні, нам хвілінай здаўся ранняй.

Халодны лістапад здаваўся нам вясной,
Снег белы на плячах — пуховаю пярынай.
Я поўны шчасця быў у гэты час з табой,
Ці ж можа быць інакш з каханаю дзяўчынай?

Я вуснамі лавіў сняжынкі - матылькі,
Што на твае сядалі шчокі, вусны, вочы.
І ўзіраўся ў твае вочы - вугалькі,
Пяшчотна абдымаў твой гібкі стан дзявочы.

Мне першага з табой спаткання не забыць
І першых неразлучных з ім пухоў - сняжынак.
Усё, што толькі можна з гэтым спалучыць,
Жыць будзе ў маім сэрцы, памяці, ўспамінах.

## Юрка Зубрыцкі

### СПАТКАННЕ З ПАВЕШАНЫМ

Лета. Вечар. Белавежа.
Рака Нараўка сапрэла,
Быццам у яе з сваіх сцежак
Спала сонца і згарэла.

Гайда ў лес! Вось там дык водыр!
Хоць упіся небам сінім.
Толькі месяц — дзівак воддаль
Павесіўся на асіне.

Што ты, лысы, вычвараеш,
Без цябе як будзем мы - та?
Да чаго зямля старая,
А імчыць сваей арбітай.

Дай, страсу цябе і годзе,
Ляці па свайму маршруту.
Лепш вісець ў прасторы штодзень,
Чым на дрэве нат' мінуту.

Адарваўся ад сука ён
І, злажыўшы ў трубку вусны,
Да мяне згары гукае:
— Які ты вялікадушны...



## Уладзімір Гайдук

### РЭХА

Рэха гаем пайшло,
Вузкай сцежкай між дрэў,
Ўстрапянула душой,
Я глядзеў, анямеў.

Чую песню як шэпт
Усё цішэй, усё слабей.
Мілы голас яе
Песціць сэрца, заве.

Дзе ты, рэха вясны?
Адгукніся ў бары.

Рэха гаем пайшло
На спатканне зары.

## Яша Бурш

здзейсніць
наспеўшыя мары
і за няўклюдасць
не атрымаць
па твары
і вось утомлена каханнем
змучана цікавасцю...
дала спакой рукам
але сколькі ж
яшчэ сораму наеўся
як замест у вусны
у бародку трапіў...
уражанне
іскраю пяканула
Яна засмяялася радасцю
і... уцякла
а я
пацалаваўшы ў зеніт жадання
закрыў вусны прыгаршчамі
каб свет не згледзеў
майго шчасця
таму уражанню прысягнуў
што чысціню
і цудоўнасць пацалунку
праз жыццё пранясу.

**СЯБРОЙСКІЯ ШАРЖЫ.**

### ЯШУ БУРШУ

Прасілі чытачы, каб растлумачыў змест,
Бо разабрацца ў ім ніхто не ўмее.
— Чытаць магу, але тлумачыць не!
Бо зместу я і сам не разумею!

**Алесь Барскі**

## Janka Kupała

### A kto tam idzie?

A kto tam idzie, a kto tam wciąż idzie
ogromną taką gromadą o świcie?
— Białorusini.

A co na grzbietach dźwigają pospołu,
na rękach, co krwawią, na nogach w postołach?
— Swoją krzywdę.

A kędyż niosą krzywdę niezmierzoną,
a kędyż niosą ją, ku jakim stronom?
— Przed świat cały.

A kto to zbudził ich, mnogie miliony,
krzywdę nauczył nieść ze snu zbudzonych?
— Nędza i męka.

A czegoż pragną, jakaż ich myśl krzepi,
karmionych wzgardą, ich, głuchych i ślepych?
— Mieć ludzi miano.

Пераклад **Багдана Жыраніка**

## ЯНКА КУПАЛА Ў ПОЛЬШЧЫ

Мы неаднойчы пісалі аб працы паасобных польскіх паэтаў над перакладамі беларускай дарэвалюцыйнай і сучаснай паэзіі. Зараз падрыхтоўваецца да выдання Дзяржаўным выдавецкім інстытутам багата ілюстраваны томік лепшых паэтычных твораў Янкі Купалы пад рэдакцыяй Багдана Жыраніка. У склад томіка ўвойдуць наступныя творы: «Я не паэт», «Бледныя, буднія дні», «Дыктатура працы» — ў перакладзе К. А. Яворскага; «Мой дом», «За годам год», «Спрасоння», «Вось тут і жыві», «Хто ты гэткі?», «Чорныя вочы» — у перакладзе Б. Жыраніка; «Паліліся мае слёзы» ў перакладзе М. Шчэпкоўскага; «У вечным бары», «На жалейцы», «Арлянятам» — пераклаў С. Поляк; «Над магіламі» — пераклад Э. Лапскага; «Песняру Беларусу», «Памяці Марыі Канапніцкай» — пераклад Л. Левіна; «Як я полем іду...» у перакладзе Я. Бжастоўскага.

Сярод упамянутых вышэй перакладчыкаў твораў Я. Купалы знаходзіцца, у прыватнасці, К. А. Яворскі. Адзначым тут, што гэты паэт мае ў сваёй перакладчыцкай спадчыне шмат твораў з беларускай паэзіі. Многія з іх можам знайсці на старонках часопіса «Камэна», які выходзіць у Любліне. Люблінскае выдавецтва рыхтуе зараз да друку поўны збор арыгінальных твораў і перакладаў К. А. Яворскага. Гэтым выданнем польскі паэт падвядзе вынікі сваёй саракагадовай творчай працы, у якой знаходзіцца параўнальна многа перакладаў з беларускай паэзіі. Некаторыя з іх і войдуць у склад зборніка К. А. Яворскага.

**(Каэм)**

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ у Міхалове

Нядзеля — 4.VI. г.г. прайшла ў Міхалове пад знакам беларускай культуры. У мясцовым доме культуры пачаўся III-ці Павятовы агляд беларускіх мастацкіх гурткоў.



На агляд прыйшло многа людзей...

Зала была напоўнена людзьмі, як кажуць — малымі і старымі. На франтоне сцэны надпіс — «5 год Беларсукага Таварыства».

Першае месца ў аглядзе здабыў вакальна - танцавальны гурток з Баршчэва. Другое месца здабыў вакальны гурток з Гарадка. Трэцяе месца журы агляду не прызнала. Таксама не прызнана першага месца ў катэгорыі драматычных гурткоў. Два раўнапраўныя другія месцы занялі гурткі з Пянькоў і Гарадка. Трэцяе месца здабыў драматычны гурток з Баршчэва.

Адначасова адбываўся дэкламатарскі конкурс. У катэгорыі вучнёўскай моладзі першае месца здабыла Марыся Кузміч з VI кл. Два другія месцы занялі Ніна Рагоўская з VI кл. і Мікалай Ціванюк з IV кл. і трэцяе месца — Ірэна Шэрамета з VI кл. Усе яны з гарадоцкай школы. У катэгорыі аматараў - дэкламатараў першае месца здабыла Браніслава Абрамовіч, а другое — Юльян Рыбінскі — абое з Баршчэва і трэцяе месца Аляксандр Ясюневіч з Гарадка.

Выступае вакальна - танцавальны гурток з Баршчэва. На пярэднім плане (злева); Б. Абрамовіч і Н. Палоцкая.

У той жа дзень у залах дома Культуры была адкрыта Выстаўка беларускай народнай творчасці Беластоцкага павета. Ёсць тут узорыстыя дываны, ручнікі, рубашкі, карціны мастакоў - аматараў, а таксама старажытныя бораны, сохі і г. д. Усяго звыш 60 экспанатаў з навакольных вёсак. Ужо ў першы дзень наведала яе каля 300 асоб.

Хлапчукі ўласнымі вачыма ўбачылі старадаўныя паляўнічыя прылады на выстаўцы народнай творчасці.

А ў суседняй бібліятэчнай зале экспануецца выстаўка беларускіх кніжак, часопісаў і газет пад лозунгам — «Родная кніжка ў руках кожнага беларуса».



Кіраўнік Павятовага рэферата культуры Ян Шаціла ўручае ўзнагароду Браніславе Абрамовіч — кіраўніку гуртка ў Баршчэве.

У кіно дома культуры адбываецца паказ беларускага савецкага кінафільма п. з. — «Шукаю бацькі».

У гэтую чэрвеньскую нядзелю Павятовы дом культуры ў Міхалове доўга шумеў шматлікімі галасамі. **(ся)**

фота: **Г Рагазінскі**

# АТРУТА

Кожнаму чалавеку жыццё дарагое, кожнаму хочацца жыць як мага даўжэй. Гэтага прагне таксама Арсень Яканюк з Курашава (Гайнаўскі павет). Вось таму ён перастаў сябраваць з аднавяскоўцамі Іванам і Сцяпанам Пракапюкамі. Няма ахвоты яму спатыкацца з Прысновічам і Кандрацюком з Лядаў, а таксама Назаруком з Гуковіч.

Гэтыя людзі дэнатуршчыкі. Ім дастаткова мець 10 зл. дык ужо яны купяць паўлітра дэнатуры і пачку пячэння і пачынаецца «пір».

Арсень Яканюк сам часта бываў у гэтай кампаніі. Але цяпер ён ужо не п'е. Перастаў піць атруту. А што яна атрута, пераканаўся пасля таго, як ад яе аглох яго калега Васіль Грыгарук, а таксама паўміралі Антон Кляпацкі і Андрэй Галёнка. **(мх)**

# НЕАБЫЯКАВАСЦЬ ДА СПОРТУ

**(Працяг са стар. 1)**

— Зацікаўленню спортам сярод вясковай моладзі ў многім садзейнічаюць у нас заняткі па фізкультуры ў пачатковых школах. Хаця ў малой ступені, але школьныя дзеці пазнаюць прыемнасць спартыўнай разрыўкі. Гавару «у малой ступені», бо не ва ўсіх школах створаны добрыя ўмовы для правядзення фізкультурных урокаў. Недахоп адпаведных пляцовак, а найчасцей — — прыладаў. Школа ж заахвочвае да спорту і потым дзяўчына ці хлапец горнецца да каманды ЛьЗС, калі такая існуе ў вёсцы. А наогул моладзь нашага павета цікавіцца спортам, і гэтае зацікаўленне ўзрастае.

**— Колькі гурткоў ЛьЗС у павеце?**

— Вось, вось... каб не быць галаслоўным, дык скажу аб гуртках. У нашым павеце існуе 28 гурткоў ЛьЗС, якія аб'ядноўваюць 725 маладых людзей, у гэтым — 134 дзяўчаты. Маем некалькі гурткоў нават даволі добрых. Гэта будуць: Белавежа, Ляшукі, Нараўка і Кляшчэлі. Ляшуцкі гурток, які вядзе Аляксей Харкевіч мае 5 секцый: лёгкай атлетыкі, шахматная, валейбольная, страляння з луку, стало-вага тэнісу. Удзельнікі паасобных дысцыплін прымаюць удзел у павятовых спартакіядах.

**— Як гурткі даюць сабе рады адносна набытку спартыўных прыладаў?**

— Наогул дрэнна. Прылады мы атрымліваем з Ваяводскай рады ЛьЗС у Беластоку, але гэта толькі часткова забяспечвае патрэбы гурткоў. Апошнім часам у дапамогу ЛьЗС-ам прыходзяць ГС-ы. Гэта вельмі нас цешыць. Напрыклад, гурток у Кляшчэлях атрымаў ад мясцовага ГС-а 1250 зл. і закуплена прылады да футбола. ГС у Нарве мясцоваму, нядаўна арганізаванаму гуртку прызначыла 1000 зл. на пакупку спартыўных прылад. Добра было б, каб і іншыя ГС-ы падумалі аб дапамозе развіцця спорту ў вёсках.

Нашы гурткі ЛьЗС выкарыстоўваюць у асноўным спартыўныя пляцоўкі пры школах. Некаторыя гурткі маюць свае пляцоўкі. Напрыклад, члены гуртка ў Навасадах грамадскім чынам наладзілі сабе вельмі добрую спартыўную пляцоўку.

**— А вынікі вашых спартсменаў?**

— Нашы ЛьЗС-ы займаюць нядрэннае месца ў ваяводстве. Паводле вынікаў нядаўняй міжпавятовай спартакіяды ЛьЗС-аў па дысцыплінам лёгкай атлетыкі (паветы: Гайнаўка, Сямяцічы і Высокае Мазавецкае), якая адбылася ў Гайнаўцы, ЛьЗС-ы нашага павета занялі I месца (17 720 пунктаў). Другое месца занялі вясковыя спартсмены Сямяціцкага пав. (14 692 пункты) і трэцяе — з Высока-Мазавецкага (12 278 пунктаў). А гэта, здаецца, гаворыць ужо многа. Зараз мы ўваходзім у спартыўны клас «Б» па дысцыплінам лёгкай атлетыкі ў Беластоцкім ваяводстве.

Маем некалькі добрых спартсменаў. Вось яны: Вера Байко з Белавежы, Анаталь Швед з Курашава, А. Мазалеўскі з Чаромхі, Грыгарук, Ясюкевіч. Да В. Байко належыць некалькі павятовых рэкордаў у жаночай групе. У час апошняй міжпавятовай спартакіяды яна штурханула ядро 8,16 м. А. Швед у мужчынскай групе штурхнуў ядро 9,92 м і ўстанавіў дыскабойны рэкорд свайму павету на 43,45 м. Скок у далечыню (6,26 м) — Ясюкевіч.

Гутарыў **М. Кураш**

# ЦКІ ЖАКА

чатак трэцяй сусветнай вайны. Не думаючы доўга, ён выдаў адозву да ўсяе беларускай эміграцыі запісвацца добраахвотнікамі на карэйскі фронт. Гэты цынічны жарт, ці то правакацыю, эміграцыя зразумела добра, і пагэтаму адозва дзе паднялася, там і апусцілася.

Астроўскі сабраў свае манаткі і ўцёк у Аргенціну. Ён разлічыў як найдалей быць ад Савецкага Саюза і бліжэй да амерыканцаў. Ён думаў, што амерыканцам патрэбен будзе старшыня горада Масквы. Цяпер запытаемся ў эмігрантаў, ці ж сапраўдны беларускі патрыёт адважыўся б загнаць беларускіх эмігрантаў на карэйскі фронт, на смерць за што і якое? Абрамчык, хаця і насміхаўся з Астроўскага за вар'яцкую адозву, аднак баяўся, каб Астроўскі не ўлез у амерыканскае дармовае карыта, пагэтаму пачаў аднаўляць «камбатантаў». У лістоўках Абрамчыкавы лейтэнанты пісалі: «Час зблізжаецца, будзь напагатове». На жаль, пакуль Астроўскі сабраў сваіх «ахвотнікаў», а Абрамчык — «камбатантаў», вайна ў Карэі закончылася. Не было надзей на новыя авантуры і таму Астроўскі пастанавіў пагадзіцца з Абрамчыкам, прапануючы п'яніцы Варонцы ў Чыкага склікаць «усеэміграцыйны кантрэс» і арганізаваць адзін урад. Абрамчык зразумеў, што трэба будзе дзяліцца ватыканскімі фондамі з Астроўскім ды разлічыцца за 180 фунтаў, якія ён узяў у палякаў ды прагуляў. Абрамчык, выкарыстаўшы сваю каталіцкую місію ў Чыкага, спаткаўся з Варонкам, якому паставіў бутэльку віскі, за што Варонка напісаў ліст «да ўсяе эміграцыі» ў «Бацькаўшчыну», у якім сам прызнаў (і заклікаў усіх прызнаць) Абрамчыка законным «прэзідэнтам».

Аб прыездзе дон Левіна, расійскага манархіста ў Мюнхен, Астроўскі даведаўся ў Аргенціне і прымчаўся ў Нямеччыну, але, на жаль, і тут спазніўся, бо Абрамчык з Рагулем атрымалі 10 тысяч долараў ад расійскіх манархістаў, за што зракліся незалежнасці Беларусі і ўвайшлі ў «Саюз народаў Расіі», у так званы «Камітэт вызвалення ад бальшавізма». Разгневаны Астроўскі пачаў пісаць скаргі ў «камітэт» манархістаў, дамагаючыся выкінуць Абрамчыка, як незаконнага, а прыняць яго, Астроўскага, як законнага «прэзідэнта». Але ж расійскім манархістам усё роўна, законны ці незаконны, абы галава і голас, каб паказаць амерыканскім гаспадарам, што яны нешта робяць. Ёсць выпадкі, калі прыязджае амерыканскі капіталіст (лідэр «камітэта вызвалення») для праверкі, дык манархісты прыводзяць немцаў за грошы, каб паказаць, што ў зале ёсць «расійскі народ», ёсць сіла. Разгневаны да апошняга, Астроўскі прыехаў у Лондан да свайго сына, каб дажыць спакойна да смерці. Там яму пашанцавала, бо паміраючая яго арганізацыя ХАБР адпісала яму дом, які быў куплены беларусамі для культурных мэтаў. Пасля Астроўскі купіў сабе другі дом у Лондане. Вось такім парадкам Астроўскі змагаецца з падзелам долараў за «незалежную Беларусь».

**АНТОН З НЯСВІЖА.**
ФРГ




# ДЗЕ ЛЕПШ

Пярэчанні зусім непатрэбныя, мілыя грамадзяне. У вёсцы жыццё больш лепшае. Але, як свет стаіць, жыхары вёскі ўздыхаюць да гарадскога жыцця, а гаражане сумуюць за вёскай. Мабыць таму і прымаўка выйшла: усюды добра, дзе нас няма.

Жыхары горада вельмі любяць свінню, а асабліва зарэзаную. Але самі нават парасяці выкарміць не могуць. У ванне парасяці не вельмі выгадна. На яго пахрукванне жыхары дома збягаюцца, а адміністрацыя высяляе ўласніка разам з парасём.

На балконе не развядзеш курэй. Пеўні з самага досвітку завядуць куранты, а ўчастковы напіша пратакол не на пеўня, а толькі на гаспадара балкона.

Карову таксама не выгадна трымаць у кладоўцы. Карова ж па сходах ходзіць слабавата, а ў гарадскім скверку не папасеш яе. Не паспее красуля шчыпнуць травы, як яе павалакуць за ногі ў арышт.

Гаспадар не мала набегаецца, каб выхлапатаць назад карову, а ў камісарыяце адбываецца прыкладна такая размова.:

— Гэта ваша карова?

— Мая.

— Мы яе са сквера забралі.

— Вось гуляшчая, падла.

— Ваша карова пасвілась у скверы.

— Мабыць галодная была.

— Пастановы МРН аб ахове зелені вам вядомы?

— Аб якой зелені? Аб салаце ці пятрушцы?

— Не стружыце з сябе пятрушку. Плаціце штраф за карову ў скверы — раз, за з'едзеную траву — два і за ўтрыманне каровы ў камісарыяце — тры.

Гаспадар плаціць і ўздыхае: — Няма лепш, маўляў, як у вёсцы. Там карове раздолле. Хочаш траўку шчыпай, хочаш качайся па ёй і ніхто на гэта не зверне ўвагі.

Гаражане ад самай раніцы пачынаюць гонку за малаком, за булкамі і іншай усячынай. Пры гэтым кожны спяшае, каб на работу не спазніцца.

А ў вёсцы малочны пункт побач, у хляве мычыць. Пякарня ў хаце. Мясны запас у кладоўцы. І, бадай што самае важнае, ніякі кадравік не прычэпіцца, калі нават і спознішся да працы. Тут праца сама падганяе гаспадара.

У вёсцы паветра лячэбнае. Недарма доктары раяць бледнаватым гаражанам:

— Вам бы адпачыць у вёсцы. Свежага паветра глынуць. Малачка папіць ды смятанкай пазабаўляцца. Калі не, дык давядзецца нам у бальніцы сустрэцца.

Аднак чаму некаторых грамадзян цягне ў горад, кіньце ў мяне грэчанай кашай з маслам — ніяк не пайму.

Дзядзька Лявонь

Сапраўднымі кіраўнікамі, якія стаяць за спіной удзельнікаў перавароту, з'яўляюцца ваенныя ўлады ЗША ў Паўднёвай Карэі.




НОВАЯ ДУБІНКА Ў РУКАХ АКУПАНТА

САМААБСЛУГОЎВАННЕ

### ЧАГО ПЛАЧА

Маленькі Вася стаіць на вуліцы і моцна плача.

— Чаго плачаш? — пытае яго сусед.

— Бо.. бо я згубіў адну залатоўку...

Сусед даў Васі залатоўку і пайшоў далей. Як толькі сусед зрабіў некалькі крокаў, Вася ізноў зароў.

— Чаго зноў плачаш? — спытаў сусед. — Даў я табе залатоўку і больш не плач.

— Так, але каб я не згубіў тае залатоўкі, то меў бы два злоты.

ЯНКА БУРА
Тарнопаль

### НЕ РАЎНЯ

— Слухай, стары, Сцяпан хоча жаніцца з нашай Марыськай. Як ты думаеш?

— Думаю, што калі хоча, няхай жэніцца.

— Але ён хоча, каб ты запісаў яму палавіну гаспадаркі.

— Ведаеш, старая, я думаю, што Сцяпан не раўня нашай Марысі.

Янка Клімюк
Дубічы Царкоўныя.

### БАЦЬКА І ГРОШЫ

— Ліха ведае, што гэта за час, — скардзіцца муж жонцы. — Ніяк нельга разжыцца на грошы.

— А што трэба зрабіць, каб мець грошы? — пытае маленькі сынок.

— Трэба быць разумным, працавітым і ведаць шмат усялякіх спраў, — павучае бацька.

— А ці ж ты, татка, дурны, лянцяй і нічога не ведаеш?

Янка Ясьвіловіч
Пасынкі

### АПРАЎДАЎСЯ

— Чаму ты не прыйшоў на выхаваўчую лекцыю? — пытае настаўнік вучня.

— У доктара быў.

— А што табе доктар сказаў?

— Каб я на другую выхаваўчую лекцыю ізноў да яго прыйшоў.

Васіль Паўлоўскі
Рэпіска

### РАЗМОВА ДВУХ ЗНАЁМЫХ

— Што сталася з тваёй папугай?

— Здохла, бедная, па маім вяселлі.

— Была зайздросная?

— Так, не магла дайсці да голасу.

Мікалай Ільяшук
Атвоцк



Без слоў

## ЯН БЖЭХВА




Я дамовіўся з ім а дзевятай сустрэцца,
Я спяшаў, я прыйшоў як належыць на месца.
Пунктуальна.
Тлум людзей у чакальні.
Да чацвёртай цярпліва сяджу і чакаю,
Двойчы млею, вадою мяне адліваюць.
Цамаўляюся ўрэшце спаткацца ў суботу
І выходжу, халодным заліўшыся потам.

У суботу ён раптам паехаў з Варшавы,
На дзянёк, упарадкаваць нейкія справы.
Цераз дзень я прыходжу — няма,
Цераз тры дні — няма,
Цераз тыдзень — таксама дарма.
Зноў няма.

Цераз месяц вярнуўся—ці ж гэта спазненне!—
І засеў з панядзелка ў лясным упраўленні.
Пасяджэнне ў аўторак,
Серада — яшчэ горай:
Інвентарызацыя,
Рэгістрацыя,
Рэалізацыя.

Праўда, цяжка. Сказаў мне:
«Прыходзьце ў суботу».
Адлажыў я работу,
Пагаліўся
Старанна
І з'явіўся
Ранным рана.

Ён мяне не прыняў, бо заняты быў дужа,
А пасля занядужаў,
Расхварэўся страшэнна, фатальна,
А я звяў, як вазон, у чакальні.

Цераз тыдзень нас разам абодвух хавалі,
Мы з ім поруч ляжалі:
Я ў хваёвай,
А ён у дубовай
Труне
З адгаблёваных дошчак.
Я не мог абазвацца, а ён да мяне:
— Выбачайце, — гаворыць, —
я трохі нябожчык,
Калі - небудзь, як - небудзь спаткаемся потым,
Цераз век,
У суботу.

Пераклаў з польскай мовы
Максім Лужанін



ДЗЕСЬ НА МАРСЕ.
— Гагарын?



Аграном — прыёмаперадатчык.